 



# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 41 (450) | ГОД ІХ | 11 КАСТРЫЧНІКА | ЦАНА 60 ГР

* * *

Я САЛДАТ
НА НАГАХ МАІХ БОТЫ ТРЫВАЛЫЯ.
КРАЙ ЧУЖЫ НЕ ХАЧУ ІМІ МЕРАЦЬ.
ВЕРАЦЬ,
ВЕРАЦЬ БАЦЬКІ: НА АПОШНІМ ПРЫВАЛЕ Я
НА РАДЗІМЕ СВАЕЙ БУДУ ДОМА ВЯЧЭРАЦЬ.

Анатоль Грачанікаў









## САЛДАЦКІ ДЗЕНЬ

12 кастрычніка 1943 года Першая Дывізія Войска Польскага імя Тадэвуша Касцюшкі, сфарміравана ў Савецкім Саюзе, уступіла ў бой з гітлераўскімі захопнікамі пад беларускім мястэчкам Леніна. Гэты гістарычны дзень стаў святам Польскага Войска.

Салдата бачым найчасцей тады, калі прыязджае ў вёску на водпуск, або тады, калі сустракаем яго на вуліцах горада. Чысты, падцягнуты, пад гальштукам, адвуцюжаны мундзір, здавалася б, бестурботны. Звычайны дзень салдата, зразумела, мае крыху іншы вобл̄ік.

Вось казармы Падляшскай вайсковай часці КБВ. Салдацкі дзень зімой і летам (калі няма трывогі) пачынаецца а 6-тай гадзіне раніцы фізкультурнай зарадкай. Тры кіламетры бягом і халодны душ (здымак 2) змываюць рэшткі сну. Салдат распачынае свой чарговы цяжкі дзень, у якім здараюцца розныя нечаканасці. Самай важнай — баявая трывога. Салдата ад пачатку яго службы рыхтуюць да гэтай нечаканасці. Таму камандзір падраздзялення (здымак 3) так уважна спраўджае, ці ўсё, што мае салдат, на сваім месцы.

Потым салдаты ідуць на заняткі (здымак 1). Камандзір падае каманду: «Газ»! Значыць, чым хутчэй закладай супрацьгаз і бягом... кіламетр... другі..., пакуль не пройдзеш праз газавую паласу, пакуль камандзір не адкліча сваёй каманды. Заняткі, зрэшты, бываюць самыя разнародныя.

Салдата вучаць не толькі страляць (здымак 4). У яго руках цэлая сучасная незвычайна складаная ваенная тэхніка. Поспех ваенных дзеянняў залежыць ад умеласці, з якой салдат будзе карыстацца гэтай тэхнікай.

У салдаты бяруць людзей выключна здаровых, але здароўе трэба берагчы. Таму многа месца ў ваенным вучэнні займае спорт і фізкультура (здымак 6). Не кожны патрапіць, як салдат Мажаеўскі, падняць над галавой 60-цікілаграмавы цяжар.

Урэшце некалькі хвілін перадышкі. Капраль Ян Сліўка (здымак 5) можа ўзяць у рукі газету, другія салдаты чытаюць лісты ад радні, сваякоў і знаёмых, або проста адпачываюць.

Позна пасля абеду канчаецца праграмнае ваеннае вучэнне. Потым, хто заслужыў, ідзе на пропуск. Салдат Юрка Данілюк (здымак 7) атрымаў пропуск аж на цэлыя суткі. Яго бацькі жывуць пад Бельскам у вёсцы Кнарыды. Можна будзе некалькі гадзін пабываць дома.

Тыя салдаты, што застаюцца ў казармах, могуць паглядзець праграму тэлебачання, або фільм у сваім кіно. Але не толькі.

«Арганізацыя КМВ, — чытаю паведамленне, — пастанавіла працаваць у свабодны час ад ваеннага вучэння 1984 гадзіны пры парадкаванні парку і пладовага саду, пры пабудове школы-помніка Тысячагоддзя і спартыўных абсталяванняў для горада».

Прыпіска паясняе: «Абавязацельства выканана. Працавалі 3968 гадзін».

Сценгазетка падраздзялення падае многа іншых падобных паведамленняў. Не толькі ваеннае вучэнне цікавіць салдат.

Тэкст і фота В. РУДЧЫК







 

